## Памылкі.

1) У Бюлетэні № 8 (17) на стар. 5, у Пастановах ЦВК і СНК БССР памылкова пасьля подпісаў Старшыні ЦВК прапушчаны подпісы Старшыні СНК: „Старшыня Савету Народных Камісараў БССР Яз. Адамовіч."

2) У Бюлетэні № 9 (18) на стар. 19, у Пастанове III-яй Сэсіі ЦВК VII склiканьня, у пункце 3, надрукавана: „З прычыны пераводу з кандыдатаў у члены Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту т. т. В. П. Грузэля, А. Ў. Хацкевіча і Я. А. Левіна..." Трэба чытаць: „З прычыны пераводу з кандыдатаў у члены Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту т. т. С. Л. Гэльтмана, С. В. Яцкевіча і А. П. Ашэровіча. ."

**Пролетарии всех стран, соединяйтесь!**

Связь советских органов между собой и массами — основа советского строительства.

# БЮЛЛЕТЕНЬ
## СОВЕТА НАРОДНЫХ КОМИССАРОВ Б.С.С.Р.

2-й год издания **№ 10 (19)** 15 АВГУСТА 1926 г.



ИЗДАНИЕ СНК БССР
МИНСК—1926 г.

# ЗЬМЕСТ.

## Частка афіцыйная.

## Частка неофицыйная.

## Пастанова Савету Народных Камісараў БССР

АБ ЗАЦЬВЕРЖДАНЬНІ ПЕРАЛІКУ ЎСТАНОЎ ЦЭНТРАЛЬНЫХ І ЎСТАНОЎ, ЯКІЯ ПРЫРАЎНЕНЫ ДА ЦЭНТРАЛЬНЫХ.

Зацьвердзіць наступны пералік устаноў цэнтральных і ўстаноў, якія прыраўнены да цэнтральных:

1) Цэнтральны Выканаўчы Камітэт;
2) Савет Народных Камісараў;
3) Эканомічная Нарада;
4) Дзяржаўная Плянавая Камісія;
5) Камісія Законадаўчых Проэктаў;
6) Сталае Прадстаўніцтва БССР пры Ўрадзе СССР;
7) Народны Камісарыят Грашовых Спраў;
8) Народны Камісарыят Гандлю;
9) Народны Камісарыят Рабоча-Сялянскае Інспэкцыі;
10) Народны Камісарыят Працы;
11) Народны Камісарыят Земляробства;
12) Народны Камісарыят Унутраных Спраў;
13) Народны Камісарыят Юстыцыі і Найвышэйшы Суд;
14) Народны Камісарыят Соцыяльнае Забясьпекі;
15) Вышэйшы Савет Народнае Гаспадаркі;
16) Цэнтральная Статытычная Ўправа;
17) Народны Камісарыят Аховы Здароўя;
18) Народны Камісарыят Асьветы;
19) Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт;
20) Комуністычны Унівэрсытэт;
21) Беларуская Сельска-Гаспадарчая Акадэмія;
22) Беларускі Дзяржаўны Музэй;
23) 1-ы і 2-гі Дзяржаўныя Тэатры;
24) Навукова-Дасьледчы Інстытут Сельскае і Лясное Гаспадаркі;
25) Дзяржаўная Бібліатэка;
26) Інстытут Беларускае Культуры;
27) Вышэйшы Савет Фізычнае Культуры;
28) Цэнтральны Архіў;
29) Музэй Рэволюцыі;
30) Школа Міліцыянэраў пры Народным Камісарыяце Унутраных Спраў.

Нам. Старшыні Савету Народных Камісараў БССР **М. Карклін.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў БССР **М. Мароз.**

16 чэрвеня 1926 г.
г. Менск.

## Пастанова Савету Народных Камісараў БССР

### АБ СТАНОВІШЧЫ АХОВЫ ЗДАРОЎЯ Ў СЕЛЬСКІХ МЯСЦОВАСЬЦЯХ І МЯСТЭЧКАХ *).

I. На аснове дакладу Нам. Нар. Камісара Аховы Здароўя т. Ліўшіца аб становішчы аховы здароўя ў сельскіх мясцовасьцях і мястэчках, адзначыць наступныя дасягненьні ў гэтай галіне: павялічэньне ліку раёнаых больніц на 15, ліку ложкаў—на 160, лекавых амбуляторый на 10, палявых ясьляў—100 і раёнаых консультацый—13; папаўненьне сельскіх мэдычных устаноў пэрсоналем і частковае палепшаньне становішча самых устаноў у зьвязку з ростам раённага бюджэту ў галіне аховы здароўя.

II. Разам з гэтым, адзначаючы цяжкае санітарнае становішча вёскі і мястэчка і значнае пашырэньне пошасных і соцыяльных хвароб, паставіць на бліжэйшыя гады наступныя асноўныя задачы:

а) ажыцьцявіць пастанову Савету Народных Камісараў аб бясплатнай лякарственнай і мэдычнай дапамозе працоўнаму сельскаму насяленьню і местачкавай беднаце, а таксама саматужнікам, якія не плацяць падатку;

б) даручыць Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя падаць на зацьверджаньне СНК проэкт пастановы аб прынцыпах мэдычна-санітарнае організацыі ў сельскіх мясцовасьцях БССР, у якім прадугледзець забясьпечаньне сельскага насяленьня агульна-санітарнай, амбуляторнай, ложкавай, зубалекавай і лякарственнай дапамогаю, а таксама правядзеньне мерапрыемстваў па ахове мацярынства, младзенцтва і здароўя дзяцей;

в) даручыць Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя і Народнаму Камісарыяту Працы (Галоўсоцстрах), распрацавць пытаньне аб парадку абслугоўваньня сялян і саматужнікаў у тых раёнах, дзе ёсьць мэдычныя ўстановы, якія абслугоўваюць застрахаванных рабочых і служачых, маючы на ўвазе неабходнасьць параўнаньня абслугоўваньня сялян і саматужнікаў з застрахаванымі з захаваньнем інтарэсаў застрахаваных;

г) даручыць Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя разам з Народным Камісарыятам Унутраных Спраў і Народным Камісарыятам Земляробства ўнесьці ў Дзяржаўную Плянавую Камісію проэкт мерапрыемстваў па палепшаньню дастаўкі вады і жыльлёвага будаўніцтва ў сельскіх мясцовасьцях і мястэчках;

д) лічыць неабходным у бліжэйшыя часы ўзмацніць санітарна-профіляктычную работу ў сельскіх мясцовасьцях і мястэчках. Дзеля гэтага даручыць Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя аформіць канчаткова правы санітарных лекароў і служачых санітарных організацый;

е) для разьвіцьця справы санітарнае асьветы прызнаць неабходным:

1, узмацненьне забяспечаньня мэдычных вучасткаў популярнай літаратурай і нагляднымі падсобкамі;

2, абсталяваньне сеткі перасоўных выставак па гігіене і да браладнасьці заселенных месц.

3, ўвязка ўсёй санітарна-асьветнай работы з работаю культурна асьветных устаноў на вёсцы (хаты-чытальні, школы і г. д.);

---

*) Гл. артыкул т. Ліўшыца па гэтым пытаньні ў неофіцыйнай частцы.

ж) у сувязі з вялікім недахватам ложкаў для тубэркулёзных і душэўна-хворых, даручыць Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя прадугледзець у сваіх вытворчых плянах павялічэньне ліку супроць —тубэркулёзных і псыхіатрычных ложкаў па БССР;

з) даручыць Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя зрабіць усе неабходныя захады па прыстасаваньні мэдычна-санітарнага абслугоўваньня да нацыянальна-бытавых асаблівасьцяй сельскага і местачковага насяленьня (нацыянальная мова і г. д.).

і) для забясьпечаньня сельскіх мясцовасьцяй кваліфікаванымі мэдычнымі работнікамі і палепшаньня матар'яльна-бытавога становішча мэдычнага пэрсоналю, даручыць Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя распрацаваць адпаведныя прапазыцыі і ў месячны тэрмін унесьці іх на зацьверджаньне СНК;

к) зьвярнуць увагу Нар. Кам. Аховы Здароўя на неабходнасьць прыцягненьня савецкіх, профэсіянальных і інш. грамадзкіх арганізацый для замацаваньня работы ячэек грамадзкай самадзейнасьці ў галіне аховы здароўя (местачковыя і раённыя санітарныя саветы, сельскія санітарныя саветы, сельскія санітарныя тройкі).

Нам. Старшыні Савету Народных
Камісараў БССР **М. Карклін.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных
Камісараў БССР **М. Мароз.**

7 ліпеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Пастанова Савету Народных Камісараў БССР

### АБ ПРАВЯДЗЕНЬНІ РЭВОЛЮЦЫЙНАЙ ЗАКОННАСЬЦІ.

Выслухаўшы даклад Народнага Камісара Юстыцыі аб правядзеньні рэволюцыйнай законнасьці, Савет Народных Камісараў адзначае, што работа Н.К. Юстыцыі за мінулы год дала значныя практычныя вынікі, як у галіне ўзмацненьня рэволюцыйнай законнасьці, так і ў галіне судовага будаўніцтва.

Савет Народных Камісараў ухваляе ўзяты Н.К. Юстыцыі цьвёрды курс на прыбліжэньне органаў Юстыцыі да насяленьня, на пашырэньне грамадзка-палітычнае работы, на павышэньне кваліфікацыі работнікаў Суда і Пракуратуры і зазначае, што ў рабоце Пракуратуры і Суда за мінулы год вялася правільная клясавая лінія і што аўтарытэт органаў Юстыцыі на мясцох сярод насяленьня значна падняўся.

Савет Народных Камісараў адзначае палепшаньне якаснага падбору работнікаў Юстыцыі, правільна ўзятую і зьдзейсьняемую Н.К. Юстыцыі лінію па арганізацыі судоў і судагаварэньня для нацыянальных меншасьцяй БССР, а таксама адзначае перавод акруговых і народных судоў на беларускую мову і дасягнутыя посьпехі ў сэнсе ўстанаўленьня аднастайнасьці, увядзеньня плянавасьці і папрошчаньня ў рабоце нізавых органаў Юстыцыі. Аднак, на мясцох, заўважваюцца яшчэ выпадкі парушэньня рэволюцыйнай законнасьці асабліва ў нізавым савецкім апараце.

Між работаю па популярызацыі законаў і вялізарнымі запатрабаваньнямі ў гэтай галіне на мясцох існуе яшчэ неадпаведнасьць, вынікаючая з стракатасьці і з шматбочнасьці гэтае работы. Сетка органаў Юстыцыі ў акругах і раёнах яшчэ не такая шырокая, каб задаволіць цалкам ўсе праўныя запатрабаваньні насяленьня, якія ўзрастаюць па меры ўзмацненьня экономікі Рэспублікі, разьвіцьця політычнае актыўнасьці насяленьня і пашырэньня грамадзянскага звароту.

Для падняцьця кваліфікацыі мясцовых работнікаў Н.К.Юстыцыі зроблены заходы ў форме правядзеньня сыстэматычных і глыбокіх рэвізій і інструктаваньня, організацыі юрыдычных гурткоў пры народных судох і адчыненьня юрыдычных курсаў пры Н.К. Юстыцыі. Аднак, перад Н.К.Юстыцыі, пытаньне аб падняцьці кваліфікацыі работнікаў Юстыцыі яшчэ павінна стаяць, як задача бліжэйшага часу.

Агульны нагляд за законнасьцю, шырока разьвінуты пракуратураю ў галіне адміністрацыйнае работы савецкіх органаў, патрабуе паглыбленьня ў частцы наглядаў за дзейнасьцю гаспадарчых органаў.

Адзначыць перагружанасьць камер судовых выканаўцаў і зрабіць адпаведныя заходы да ліквідацыі гэтае перагружанасьці.

Зробленыя Н.К.Юстыцыі заходы аб укомплектаваньні раёнаў членамі калегіі абаронцаў зьяўляюцца правільнымі і работа ў гэтым напрамку павінна быць у бліжэйшы час скончана.

Работа сярод народных засядацеляў, у параўнаньні з мінулым годам, значна ажывілася. Прымаючы, аднак, пад увагу вялікае грамадзкае і політычнае значэньне гэтае работы, трэба усебакова яе разьвіваць.

Савет Народных Камісараў лічыць неабходным:

1) вясьці і далей самае рашучае змаганьне органаў Юстыцыі з парушэньнем законаў работнікамі адміністрацыйных і гаспадарча-прамысловых органаў;

2) зьвярнуць асаблівую ўвагу на патрэбы судовых органаў, абслугоўваючых нацыянальныя меншасьці у сэнсе падрыхтоўкі праз Н.К.Юстыцыі адпаведных для іх работнікаў і ў сэнсе далейшага паглыбленьня іх судовае і грамадзка-політычнае работы сярод нацыянальнасьцяй, якія імі абслугоўваюцца;

3) узмацніць інструктаваньне раённых выканаўчых камітэтаў і сельскіх саветаў акруговымі выканаўчымі камітэтамі ў галіне савецкага законадаўства;

4) каб ускорыць разбор судовых спраў і каб ня было доўгае затрымкі іх вырашэньня з прычыны несваячасных адказаў на запытаньні судовых органаў, запрапанаваць усім Народным Камісарыятам і цэнтральным установам выдаць адпаведныя дырэктывы па сваіх апаратах;

5) для пашырэньня популярызацыі савецкага законадаўства, пачаць выданьне Н.К.Юстыцыі юрыдычнае бібліатэчкі для шырокіх мас насяленьня, пераважна на беларускай мове, узгадніўшы гэтую работу з Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам.

Нам. Старшыні Савету Народных Камісараў БССР **М. Карклін.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў БССР **М. Мароз.**

14 ліпеня 1926 г.
г. Менск.

## Пастанова Савету Народных Камісарау БССР

АБ ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНІ ЛЕКАВА-САНІТАРНАЕ СЕТКІ Ў ГАРАДОХ І Ў СЕЛЬСКІХ МЯСЦОВАСЬЦЯХ БССР НА 1926-27 ГОД ПА ДЗЯРЖАЎНЫМ БЮДЖЭЦЕ *).

I. Прыняць наступную сетку лекава-санітарных установ Н.К. Аховы Здароўя на 1926-27 г., праходзячых па дзяржаўным бюджэце:

1. Навуковая Мэдыцынская Рада.

2. Інстытут Судова-Мэдыцынскае экспэртызы.

3. Цэнтральнае Бюро Лекавае Экспэртызы з аддзяленьнем у Віцебску.

### МЕНСКАЯ АКРУГА.

1. Эвако-прыёмнік для прыяжджаючых хворых, патрабуючых амбуляторнага лячэньня на 40 ложкаў.

2. Цэнтральны Пастэраўскі Інстытут у Менску з інтарнатам для пакусаных шалёнымі жывеламі прыежджых сялян на 25 ложкаў.

3. Пратэзная майстэрня ў Менску з ортопэдычнаю амбуляторыяю.

4. Клініка дзіцячых хвароб у Менску на 72 ложкі.

5. Інстытут Фізычных мэтадаў лячэньня з клінікаю нэрвовых хвароб на 50 ложкаў у Менску.

6. Дыспансэр для сухотных з стацыянарам на 10 ложкаў.

7. Вэнэролёгічны дыспансэр у Менску.

8. Менскі фавозны дом на 50 ложкаў.

9. Цэнтральны дзіцячы дыспансэр у Менску.

10. Дом груднога дзіцяці № 1 на 110 ложкаў з уключэньнем утрыманьня патронату на 36 дзяцей.

11. Санаторыя для сухотных „Красны Акцябр“ на 80 ложкаў.

12. Псыхіятрычная больніца—калёнія „Навінкі“ на 35 ложкаў.

13. Больніца пры Менскім Папраўчым Доме на 40 ложкаў.

14. 1-я Менская гарадзкая больніца на 225 ложкаў (70 хірургічных, 60 тэрапэўтычных, 10—вуха, носа і горла, 10 ложкаў па вывучэньню хвароб і Цэнтральны Рэндгэнаўскі габінэт).

15. 2-я Менская гарадзкая больніца на 355 ложкаў (200 псыхіатрычных, 75 акушэрска-гэнэколёгічных, 50 хірургічных і 30 тэрапэўтычных).

### ВІЦЕБСКАЯ АКРУГА.

1. Віцебская псыхіатрычная больніца на 200 ложкаў.

2. Віцебскі Хіміка-бактэрыёлёгічны Інстытут з пастэраўскім аддзяленьнем.

3. Дыспансэр для сухотных з стацыянарам на 10 ложкаў.

4. Вэнэролёгічны дыспансэр у Віцебску.

5. Костна-сухотная санаторыя (Чэрніца) на 65 ложкаў.

6. Фавозна-трахоматозны дом на 40 ложкаў.

7. Больніца пры папраўчым доме на 30 ложкаў.

### МАГІЛЁЎСКАЯ АКРУГА.

1. Магілёўская псыхіятрычная больніца з калёніяй для душэўна-хворых на 400 ложкаў.

2. Дыспансэр для сухотных на 5 ложкаў.

---

*) Гл. артыкул т. Г. у неофіцыйнай частцы.

3. Вэнэролёгічны дыспансэр.
4. Фавозна-трахоматозны дом на 130 ложкаў.
5. Больніца пры Папраўчым Доме на 20 ложкаў.

## БАБРУЙСКАЯ АКРУГА.

1. Дыспансэр для сухотных з стацыянарам на 5 ложкаў.
2. Вэнэролёгічны дыспансэр.
3. Больніца пры Папраўчым доме на 5 ложкаў.
4. Фавозны дом на 80 ложкаў.

## БАРЫСАЎСКАЯ АКРУГА.

1. Дыспансэр для сухотных з стацыянарам на 5 ложкаў.
2. Вэнэролёгічны дыспансэр.
3. Амбуляторыя пры Папраўчым доме.

## АРШАНСКАЯ АКРУГА.

1. Дыспансэр для сухотных.
2. Вэнэролёгічны дыспансэр.
3. Амбуляторыя з ізалятарам на 5 ложкаў пры Папраўчым доме

## ПОЛАЦКАЯ АКРУГА.

1. Дыспансэр для сухотных.
2. Вэнэролёгічны дыспансэр.
3. Амбуляторыя пры Папраўчым Доме.

## СЛУЦКАЯ АКРУГА.

1. Дыспансэр для сухотных.
2. Вэнэролёгічны дыспансэр.
3. Амбуляторыя пры Папраўчым доме.

## МАЗЫРСКАЯ АКРУГА.

1. Дыспансэр для сухотных.
2. Вэнэролёгічны дыспансэр.
3. Малярыйная станцыя.
4. Амбуляторыя пры Папраўчым доме.

## КАЛІНІНСКАЯ АКРУГА.

1. Калінінскі дыспансэр для сухотных у вёсцы Брацькавічы.
2. Вэнэролёгічны дыспансэр.
3. Амбуляторыя пры Папраўчым доме.

II. З прызначанай па контрольных лічбах дзяржаўнага бюджэту для Н.К. Аховы Здароўя сумы на новае больнічнае будаўніцтва, лічыць мэтазгодным зрабіць у 1926-27 г. выдаткі:

а) на заканчэньне пабудоўкі баракаў для Магілёўскае псыхіатрычнае больніцы;

б) на пабудоўку корпусу лячэбніцы для душэўна-хворых у калёніі „Навінкі“ каля г. Менску на 60 чалавек;

в) на пабудоўку корпусу для костна-сухотных хворых у санаторыі „Чэрніцы“ Віцебскае акругі.

III. Лічачы ў прынцыпе неабходным пашырэньне амбуляторыі электра-лячэбніцы для прыходзячых хворых Інстытуту фізычных мэтадаў лячэньня ў Менску, запрапанаваць Н.К. Аховы Здароўя рас-

працаваць проэкт і каштарысь на пабудоўку дадатковага будынку, узгодніўшы іх загадзя з Рэспубліканскім Інжэнэрам.

IV. Пытаньне аб пабудаваньні будынку для асноўнага корпусу Магілёўскае псыхіатрычнае больніцы пакінуць адчыненым да разгляду бюджэту, запрапанаваўшы Н.К. Аховы Здароўя распрацаваць проэкт пабудоўкі.

V. Запрапанаваць Н.К. Асьветы разам з Н.К. Аховы Здароўя ўрэгуляваць пытаньне аб далейшым утрыманьні фавозна-трахоматозных дамоў.

Нам. Старшыні Савету Народных Камісараў БССР **М. Карклін.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў БССР **М. Мароз.**

14 ліпеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Пастанова Савету Народных Камісараў БССР

### АБ ВЫДЗЯЛЕНЬНІ З АКРУГОВА-ГАРАДЗКІХ І РАЙЁННЫХ БЮДЖЭТАЎ ПРЫБЫТКАЎ І ВЫДАТКАЎ У БЮДЖЭТЫ ГАРАДЗКІЯ, МЕСТАЧКОВЫЯ І СЕЛЬСКІЯ *).

Для ўдасканаленьня дыфэрэнцыяцыі прыбыткаў і выдаткаў паміж існуючымі ў сучасны момант мясцовымі бюджэтамі, а таксама для ўстанаўленьня пераліку прыбыткаў і выдаткаў гарадоў, мястэчак і сельскіх саветаў, Савет Народных Камісараў Беларускае ССР ў дататак да свае пастановы за 3 чэрвеня 1925 г., пастанаўляе:

I. Перанесьці з пачатку 1926-27 гаспадарчага году з акруговых на райённыя бюджэты выдаткі па ўтрыманьні фінансавых часьцей райённых выканаўчых камітэтаў.

II. Перанесены з дзяржаўнага бюджэту выдатак на ўтрыманьне райённых статыстыкаў ускласьці на райённы бюджэт.

III. З акругова-гарадзкіх бюджэтаў выдзяліць ў бюджэты акруговых гарадоў наступныя прыбыткі і выдаткі:

ПРЫБЫТКІ:

а) не падатковыя ад маемасьці і прадпрыемстваў, якія знаходзяцца на тэрыторыі гораду і пад ведамам гарадзкога савету;

б) ад устаноў і мерапрыемстваў, утрыманьне і ажыцьцяўленьне якіх адносіцца на гарадзкі бюджэт;

в) ад рэалізацыі фондаў гарадзкога значэньня;

г) ад дадатковае рэнты з гарадзкіх зямель;

д) ад продажу непатрэбнае маемасьці;

е) адлічэньні ад падатку з пошлін са спадчыны, паступаючага па гораду;

ж) судовая пошліна па справах, якія разглядаюцца ў гарадзкіх народных судох;

з) набаўкі да паступаючага па гораду прамысловага падатку, да цаны патэнту на права продажу напіткаў і табачных вырабаў, да

---

*) Гл. артыкул т. М. у неофіцыйнай частцы.

судовое пошліны, якая бярэцца гарадзкімі народнымі судамі, а таксама да платы за засьведчаньне копій, подпісаў і г. д.

*Увага.* Пастановаю Акруговага Выканаўчага Камітэту набаўка да дзяржаўнага прамысловага падатку і да падатку ад прыбыткаў можа быць перададзена акруговаму бюджэту.

і) часьць адлічэньня ад дзяржаўнага прамысловага падатку ў разьмеры, які вызначаецца акруговым выканаўчым камітэтам;

к) паступаючыя на тэрыторыі гораду мясцовыя падаткі і зборы, за выключэньнем падатку з цяжараў, якія перавозяцца па чыгунках і па водных шляхох;

л) субвэнцыя, якая адпускаецца на долевы ўдзел у выдатках.

м) сродкі, паступаючыя ў парадку адплаты выдаткаў, зробленых з гарадзкога бюджэту на комунальныя паслугі вайсковых часьцей;

н) 40 проц. адлічэньні ад сельска-гаспадарчага падатку, які бярэцца з насяленьня гарадзкой мяжы.

## ВЫДАТКІ:

а) на ўтрыманьне гарадзкіх саветаў;

б) на ўтрыманьне гарадзкіх народных судоў і асобных сэсій па працоўных справах, у тым ліку па выдачы ўстаноўленае ўзнагароды народным засядацелям, сьведкам і экспэртам;

в) на ўтрыманьне гарадзкой савецкай Рабоча-Сялянскай Міліцыі;

г) на ўтрыманьне гарадзкіх комунальных будынкаў, маемасьцяй і прадпрыемстваў;

д) на гарадзкі дабрабыт і супроцьпажарную ахову;

е) на організацыю, абсталяваньне і ўтрыманьне ў гарадох профэсіянальна-тэхнічных школ ніжэйшага тыпу, абслугоўваючых гарадзкое насяленьне, каротка-тэрміновых курсаў і на дашкольную профэсіянальна-тэхнічную асьвету;

ж) на організацыю, абсталяваньне і ўтрыманьне гарадзкіх школ 4-х годак, 7-годак і 9-годак, дзіцячых дамоў і колёній, дзіцячых садоў, пляцовак і дзённых прытулкаў, школ для падросткаў і інш. установ па соцыяльным выхаваньні;

з) на організацыю, абсталяваньне і ўтрыманьне гарадзкіх бібліятэк, народных дамоў, клюбаў, студый, школ па ліквідацыі няпісьменнасьці, у тым ліку сярод дапрызыўнікаў, школ для дарослых і школ політычнае граматы;

і) на ўтрыманьне музэяў, тэатраў, выставак і інш. культурна-асьветных мерапрыемстваў;

к) на пабудаваньне, абсталяваньне і ўтрыманьне гарадзкіх больніц, лячэбніц, амбуляторый і пунктаў хуткае дапамогі;

л) на ахову мацярынства і младзенцтва і на ахову здароўя дзяцей у гарадох;

м) на розныя санітарныя мерапрыемствы гарадзкога значэньня;

н) на папярэджваньне соцыяльных заразных хвароб у горадзе і на змаганьне з імі;

о) на ўтрыманьне гарадзкіх інвалідных установ, на вывучэньне інвалідаў і на выдачу пэнсій і дапамог інвалідам вайны, пражываючым у горадзе, а таксама іх сем'ям і сем'ям асоб, загінуўшых на вайне;

п) на змаганьне з жабрацтвам і простытуцыяю ў гарадох;

р) на выдачу дапамог органам узаемнае дапамогі ў гарадох;

с) на расквартэраваньне вайсковых часьцей і абслугоўваньне іх комунальнымі паслугамі;

т) на ўтрыманьне вэтэрынарных лячэбных устаноў і на змаганьне з заразнымі хваробамі дамовае жывёлы ў гарадох;

у) адлічэньні ва ўстаноўленым парадку—у спэцыяльныя сродкі, фонды і капіталы;

ф) на пакрыцьцё пазычак, паступаючых у бюджэты гарадоў і на выплату процантаў па пазычках;

х) на зварот сум няправільна паступіўшых у даход гарадзкіх бюджэтаў;

ц) пакрыцьцё завінавачанасьці мінулага году;

ч) на ўдзел у організацыі мясцовых акцыйных таварыстваў і інш. таварыстваў і банкаў;

ш) на змаганьне з безрабоцьцем і на мерапрыемствы змаганьня з безрабоцьцем гарадзкога значэньня;

ю) адлічэньні ў акруговы фонд рэгуляваньня.

IV. З раёнцых бюджэтаў перадаць у бюджэты гарадоў, мястэчак і сельскіх саветаў наступныя прыбыткі і выдаткі:

## А. У бюджэты не акруговых гарадоў.

ПРЫБЫТКІ:

а) ад мясцовых маемасьцяй і прадпрыемстваў, знаходзячыхся пад ведамам гарадзкога савету і ня маючых акруговага і раённага значэньня;

б) мясцовыя падаткі і зборы, якія бяруцца з насяленьня гораду за выключэньнем падатку з цяжараў, якія перавозяцца па чыгунцы;

в) набаўкі на ўсе віды прамысловага падатку з знаходзячыхся ў горадзе прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў, а таксама да цаны патэнтаў на асабовыя прамысловыя заняткі і на права продажу напіткаў і табачных вырабаў;

г) набаўка да дзяржаўнага агульна-падаходнага падатку, які бярэцца з насяленьня гораду;

д) усе прыбытковыя крыніцы непадатковага характару, паступаючыя ад ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў гарадзкога значэньня;

е) адлічэньні ад сельска-гаспадарчага падатку ў разьмеры, які ўстанаўляецца раённым выканаўчым камітэтам.

ВЫДАТКІ:

а) на ўтрыманьне апарату гарадзкога савету;

б) на ўтрыманьне школ 4-годак, 7-годак, дзіцячых садоў і інш. устаноў дашкольнага выхаваньня, якія знаходзяцца ў горадзе і абслугоўваюць насяленьне гэтага гораду;

*Увага.* Выдатак на ўтрыманьне 7-годак, абслугоўваючых насяленьне ня толькі аднаго гораду, а таксама насяленьне і інш. пунктаў раёну, адносіцца на раённы бюджэт;

в) на ўтрыманьне хат-чытаlень, клюбаў, народных домаў, бібліятэк, вячэрніх школ, пунктаў ліквідацыі няпісьменнасьці і інш. культурна-асьветных устаноў і мерапрыемстваў, абслугоўваючых насяленьне даннага гораду;

г) на ўтрыманьне амбуляторый, дзіцячых ясьляў і консультацый, абслугоўваючых насяленьне даннага гораду;

д) на ўтрыманьне комунальных будынкаў, маемасьцяй і прадпрыемстваў, якія знаходзяцца пад ведамам гарадзкога савету;

е) на супроцьпажарныя мерапрыемствы;

ж) на дабрабыт гораду і інш. выдаткі, зьвязаныя з кіраваньнем і з увядзеньнем гарадзкой гаспадаркі.

### Б. У местачковыя бюджэты, дзе яны ўведзены.

ПРЫБЫТКІ:

а) ад маемасьцяй і прадпрыемстваў, знаходзячыхся пад ведамам местачковага савету і ня маючых акруговага і раённага значэньня;

б) мясцовыя выдаткі і зборы, якія спаганяюцца з насяленьня мястэчка, акрамя падатку з цяжараў, якія перавозяцца па чыгунцы;

в) набаўкі на ўсе віды прамысловага падатку, знаходзячыхся ў мястэчку прамысловых прадпрыемстваў першых чатырох разрадаў і гандлёвых прадпрыемстваў першых 3 разрадаў, а таксама на цэны патэнтаў на асабовыя прамысловыя заняткі і на права продажу напіткаў і табачных вырабаў;

г) набаўка да дзяржаўнага агульна-падаходнага падатку, які бярэцца з насяленьня мястэчка;

д) адлічэньні ад сельска-гаспадарчага падатку у разьмеры, які ўстанаўляецца раённым выканаўчым камітэтам.

ВЫДАТКІ:

а) на ўтрыманьне апарату местачковага савету;

б) на ўтрыманьне школ 4-годак, хат-чытален, народных дамоў і інш. культурна-асьветных устаноў, калі яны абслугоўваюць выключна насяленьне даннага мястэчка;

в) на ўтрыманьне амбуляторый, ясьляў і консультацый, абслугоўваючых насяленьне даннага мястэчка;

г) на ўтрыманьне будынкаў і маемасьцяй, знаходзячыхся пад ведамам местачковага савету;

д) на супроцьпажарныя мерапрыемствы мястэчка;

е) на дабрабыт мястэчка.

### В. У бюджэты сельскіх саветаў.

ПРЫБЫТКІ:

а) ад маемасьцяй, прадпрыемстваў і аброчных артыкулаў, знаходзячыхся на тэрыторыі сельскага савету і ня маючых раённага альбо акруговага значэньня;

б) мясцовыя падаткі і зборы, якія спаганяюцца на тэрыторыі сельскага савету, за выключэньнем падатку з цяжараў, якія перавозяцца па чугунцы;

в) набаўкі на ўсе віды прамысловага падатку з знаходзячыхся на тэрыторыі сельскага савету прамысловых прадпрыемстваў першых 4 разрадаў і гандлёвых прадпрыемстваў першых 3 разрадаў, а таксама на цэны патэнтаў на асабовыя прамысловыя заняткі і на права продажу напіткаў і табачных вырабаў;

г) набаўка да дзяржаўнага агульнага падаходнага падатку, які спаганяецца з насяленьня сельскага савету;

д) адлічэньні ад сельска-гаспадарчага падатку ў разьмеры, які ўстанаўляецца раённым выканаўчым камітэтам.

ВЫДАТКІ:

а) на ўтрыманьне апарату сельскага савету;

б) на школы-прымітывы, хаты-чытальні, народныя дамы і інш. культурна-асьветныя ўстановы і мерапрыемствы, абслугоўваючыя вы ключна тэрыторыю сельскага савету;

*Увага.* Выдаткі на 7-годкі ўносяцца ў бюджэт толькі ў тым выпадку, калі 7-годка абслугоўвае насяленьне толькі аднаго даннага сельскага савету;

в) на ўтрыманьне лекарскіх і фельчарскіх пунктаў, консультацый і дзіцячых ясьляў, абслугоўваючых насяленьне сельскага савету;

г) на ўтрыманьне і абслугоўваньне будынкаў, маемасьцяй прадпрыемстваў, перададзеных у веданьне сельскага савету;

д) на ўтрыманьне і рамонт дарог сельскага значэньня і будоў на іх, а таксама на ўтрыманьне перапраўкі праз рэкі.

V. Выдзяленьне прыбыткаў і выдаткаў у гарадзкія, местачковыя і сельскія саветы на падставе гэтае пастановы робіцца акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі па належнасьці.

VI. Адлічэньні ад дзяржаўных прыбыткаў і падаткаў, перадаюцца ў гарадзкія, местачковыя і сельскія бюджэты ў разьмеры, які вызначаецца акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі па належнасьці і ў залежнасьці ад моцнасьці кожнага бюджэту.

VII. Пералік, зроблены гэтаю пастановаю прыбыткаў і выдаткаў для кожнага бюджэту, лічыць мінімальным і пашырэньне яго ў залежнасьці ад мясцовых умоў належыць да веданьня акруговых і раённых выканаўчых камітэтаў.

VIII. Пытаньне аб перадачы ўтрыманьня раённых статыстыкаў з дзяржаўнага бюджэту на раённы бюджэт унесьці на зацьверджаньне Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР, згодна арт. 7 разьдзелу 1-га палажэньня аб мясцовых фінансах (З. З. СССР 1926 г. № 31, арт. 198).

Нам. Старшыні Савету Народных Камісараў БССР **М. Карклін.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў БССР **М. Мароз.**

14 ліпеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Пастанова Савету Народных Камісараў БССР

АБ АДКАЗНАСЬЦІ НАЙМАЛЬНІКАЎ ЗА ПАРУШЭНЬНЕ ЧАСОВЫХ ПРАВІЛ ЗА 18 КРАСАВІКА 1925 ГОДУ АБ УМОВАХ УЖЫВАНЬНЯ ДАПАМОЖНАЕ НАЕМНАЕ ПРАЦЫ Ў СЯЛЯНСКІХ ГАСПАДАРКАХ І ІНСТРУКЦЫІ ДА ГЭТЫХ ПРВІЛ ЗА 12 ЖНІЎНЯ 1925 ГОДУ.

На падставе арт. 21 зацьверджаных Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР 18-IV-1925 г. часовых правіл аб умовах ужываньня дапаможнае наёмнае працы ў сялянскіх гаспадарках (З. З. СССР 1925 г. № 26, арт. 183), і ў адпаведнасьці з п. „д“ арт. 148 Кодэксу Законаў аб Працы, Савет Народных Камісараў БССР п а с т а н а ў л я е:

1. За парушэньне часовых правіл аб умовах ужываньня дапаможнае наёмнае працы ў сялянскіх гаспадарках за 18/IV-1925 г. (З. З. СССР 1925 г. № 26, арт. 183) ізацьверджанае Саветам Народ-

ных Камісараў БССР 12-VIII-1925 г. інструкцыі да гэтых правіл (З. З. БССР 1925 г. № 43, арт. 351) наймальнікі падлягаюць адказнасьці ў судовым парадку паводле арт. 132 Крымінальнага Кодэксу ў наступных выпадках:

а) за нявыплату батраку (батрачцы) заработнае платы ў умоўленыя працоўным дагаворам тэрміны ці ў вызначаным разьмеры;

б) за ўжываньне працы недарослых і цяжарных жанчын на непасільных і шкадлівых для іх здароўя работах;

в) за нядачу батраку (батрачцы), згодна працоўнага дагавору, жыльля і харчоў;

г) за нявыплату батраку або батрачцы, у выпадках іх хворасьці альбо радоў апошняй, абумоўленае заработнае платы у працягу тэрміну, вызначанага ў арт. 13 часовых правіл за 18-IV-1925 г., а таксама за нядачу ім у гэтых выпадках у працягу таго самага пэрыяду часу жыльля і харчоў, калі яны былі абумоўлены;

д) за звальненьне батрака (батрачкі) з прычыны ўдзелу ў грамадзкай рабоце або за тое, што ён лічыцца членам профэсіянальнага саюзу.

2. Ува ўсіх апошніх выпадках парушэньня зазначаных у арт. 1 гэтае пастановы часовых правіл і інструкцыі да іх наймальнікі прыцягваюцца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку і падлягаюць, згодна пастаноў раённых выканаўчых камітэтаў, якія выдаюцца за захаваньнем палажэньня аб парадку выданьня акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі абавязковых пастаноў і аб адміністрацыйным пакараньні за іх парушэньне (З. З. БССР 1925 г. № 31, арт. 288) грашоваму пакараньню ня звыш пятнаццаці рублёў, альбо прымусовым работам без пазбаўленьня волі на тэрмін ня звыш сямі дзён.

3. За парушэньні, што прадлугледжаны арт. 2 гэтае пастановы, наймальнікі па вымаганьні пракурорскага нагляду, альбо органаў Народнага Камісарыяту Працы, могуць прыцягвацца да адказнасьці таксама ў судовым парадку згодна арт. 132 Крымінальнага Кодэксу, калі наймальнік паўторыць гэтае парушэньне альбо зробіць гэтым парушэньнем батраку (батрачцы) значны матар'яльны убытак.

Нам. Старшыні Савету Народных
Камісараў БССР **М. Карклін.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных
Камісараў БССР **М. Мароз.**

7 ліпеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Правілы расплянаваньня і забудоўкі сяленьняў у Беларускай ССР.

### ЧАСЬЦЬ I.

#### АГУЛЬНАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ.

1. Правілы расплянаваньня і забудоўкі сяленьняў маюць на мэце дасягненьне бясьпечнасьці ў пажарных адносінах, гаспадарчых выгад, экономічнае карысьці, санітарна-гігіенічных палепшаньняў сель-

скага бадаўніцтва, агульнага ўпарадкаваньня і знадворнага хараства сяленьняў.

2. Гэтыя правілы пашыраюцца на тыя сельскія пасяленьні, якія ня лічацца на гарадзкім становішчы, пры гэтым для сядзіб і хутароў, якія стаяць паасобна, адпадаюць толькі тыя правілы, якія адносяцца да груп гаспадарак, як упарадкаваньне вуліц і грамадзкіх пляцоў.

3. За дакладным выкананьнем гэтых правіл забудоўкі сяленьняў і абавязковых пастаноў па будаўнічай часьці (арт. 4) наглядаюць беспасрэдна сельскія саветы, а таксама раёнными выканаўчыя камітэты і мясцовыя зямельныя органы, а ў парадку нагляду Народны Камісарыят Земляробства, акруговыя выканаўчыя камітэты і органы Рэспубліканскага Інжэнэра.

4. Абавязковыя пастановы, якія выдаюцца акруговымі выканаўчымі камітэтамі для разьвіцьця гэтых правіл дапасавальна да мясцовых умоў, павінны быць узгоднены з органамі Народнага Камісарыяту Земляробства і Рэспубліканскага Інжэнэра.

5. Гэтыя правілы ўжываюцца цалкам пры складаньні забудоўкі на новыя сяленьні, у іншых выпадках правілы ўводзяцца ў дзейнасьць паступова, паводле арт. 64 і 68.

## ЧАСЬЦЬ II.

### РАЗЬДЗЕЛ I.

### АБ ВЫБАРЫ МЕСЦА ДЛЯ НОВЫХ СЯЛЕНЬНЯЎ І АБ СКЛАДАНЬНІ ПЛЯНАЎ СЯЛЕНЬНЯ.

6. Новыя сяленьні і сяленьні, якія перапляноўваюцца, могуць будавацца толькі па пляне, зацьверджаным паводле гэтых правіл.

7. Калі будуюцца новыя сяленьні, перад тым як складаць проэкт пляніроўкі, выбіраецца месца пад сяліцебную плошчу.

8. Прыгоднае сядзібнае месца выбіраецца органамі Народнага Камісарыяту Земляробства (земляўпарадчыкам супольна з тэхнікам па сельскім будаўніцтве) з удзелам прадстаўніка сельскага савету і ўпаўнаважаных ад зацікаўленых грамадзян. Аб прыгоднасьці месца складаецца акт.

*Увага.* У камісію выбіраць месца пад сяленьне запрашаецца прадстаўнік санітарнага нагляду.

9. Асноўнымі прыметамі прыгоднасьці даннага месца пад сяленьне зьяўляюцца: забясьпечанасьць вадой, здавальняючая сухасьць мясцовасьці, адкрытая для сонца, магчымасьць правядзеньня зручных шляхаў зносін, здавальняючы схіл для сцёку дажджавой і талае вады, магчымасьць скарыстаньня прыродных умоў для абароны ад халодных вятроў.

*Увага.* Месцы, якія залліваюцца разьлівам ракі, на якіх бываюць апоўзкі, з равамі, забалочаныя без здавальняючае асушкі, ня могуць прызначацца пад забудоўкі.

10. Выбіраючы месцы пад сяленьні, трэба кіравацца спэцыяльнымі законамі аб адлегласьцях, аддзяляючых будынкі ад ліній чыгунак, ваенных будоў і складаў, нафтавых і іншых падобных да іх складаў, водных шляхоў, а таксама законамі аб ахове помнікаў старыны, прыроды і мастацтва.

11. Тэхнічная работа па адводу зямель пад новае сяленьне і ўстанаўленьне граніц сяліцебнае плошчы для сельскіх месц пасяленьня, здыманьне пляну існуючага разьмяшчэньня мясцовасьці пад забудоўку новых сяленьняў праводзіцца зямельнымі органамі. Складаньне плянаў, вызначаючых унутранае распляналваньне сяленьняў і іх упарадкаваньне, ускладаецца на зямельныя органы, якія праводзяць гэтую работу, дапасоўваючы яе да тыповых проэктаў. Проэкты гэтыя зацьвярджаюцца ва ўстаноўленым парадку.

12. На проэктных плянах на новыя сяленьні наносяцца: вуліцы, завулкі, сядзібныя дзялянкі, грамадзкія пляцы і грамадзкія студні; пры гэтым такое нанясеньне робіцца на агульным земляўпарадчым проэкце. Разьмяшчэньне -ж будынкаў у сядзібах вызначаецца ў матар'ялах, якія дадаюцца да земляўпарадчага проэкту.

На плянах існуючых сяленьняў, належачых да пераплянаваньня цалкам або часткова ў парадку арт. 5 і 68 правіл, паказваюцца ў выпадку патрэбы існуючыя будынкі і наносяцца мяркуемыя будаўнічыя дзялянкі, а таксама сумежныя дзялянкі (у неабходных выпадках для лепшае зразумеласьці проэкту наносіцца схэматычна на плян і ўся сітуацыя мясцовасьці, прызначанае да распляванаваньня).

13. Для забудаваньня новага пасёлку робяцца вусныя або пісьмовыя заявы ад імя групы сялян праз сельскі савет у раённы выканаўчы камітэт,які дзейнічае далей у парадку арт. 161—175 Земельнага Кодэксу Беларускае ССР.

14. Проэктныя пляны, вызначаючыя ўнутранае распляналваньне сяленьняў, забудоўку і ўпарадкаваньне, складаюцца паводле арт. 12 каморнікам-земляўпарадчыкам разам з тэхнікам па сельскім будўніцтве ў 2-х экзэмплярах: арыгінал і копія, пры гэтым земляўпарадчыкам выконваецца работа ў часьці распляналваньня сяліцебнае мяжы на вуліцы, завулкі і сядзібы, а тэхнікам-будаўніком—выконваецца работа ў часьці ўнутранае забудоўкі сядзіб.

15. Проэкты распляналваньня (сяліцебнае мяжы, забудоўкі і упарадкаваньня) сяленьняў, якія земляўпарадкоўваюцца, паказваюцца зацікаўленым старанам земляўпарадчыкам і тэхнікам-будаўніком адначасна з паказаньнем агульнага земляўпарадчага проэкту, калі такое распляналваньне робіцца адначасна з земляўпарадкаваньнем (або тэхнікам-будаўніком, калі распляналваньне робіцца без земляўпарадкаваньня). Паказаньне проэктаў робіцца ў прысутнасьці прадстаўніка сельскага савету праз раз'ясьненьне на пляне і ў натуры. Пры гэтым земляўпарадчык або тэхнік павінен імкнуцца да ўзгадненьня пажаданьняў старон, але не на шкоду, аднак, вымаганьням гэтых правіл, уносячы ў проэкт, у выпадку патрэбы, мэтазгодныя зьмены і папраўкі. Аб тым, што проэкт паказаны старанам, складаецца пратакол, у які ўносяцца ўсе спрэчкі, заявы і скаргі старон, пакінутыя нявырашанымі.

16. Складзены проэкт распляналваньня разам з пратаколам і ўсім справаведзеньнем падаецца земляўпарадчыкам са сваім заключэньнем і з проэктам вырашэньня прэчак у мясцовую раённую зямельную камісію не пазьней 2-х тыдняў ад дня паказаньня старанам проэкту.

17. На паказаны старанам проэкт распляналваньня будынкаў могуць падавацца земляўпарадчыку або беспасрэдна ў Зямельную Камісію скаргі толькі на працягу 2-х тыдняў ад дня паказаньня проэкту.

18. Зямельныя камісіі разглядаюць справы аб распляналваньні сяленьняў у парадку, устаноўленым для праходжаньня земляў-

парадчых спраў, прыцягваючы да разбору такіх спраў, у якасьці экспэртаў, спэцыялістых па сельскім будаўніцтве.

19. Граніцы сяліцебнае часьці пасёлку замацоўваюцца пастаяннымі межавымі капцамі, паводле існуючых правіл аб капцох.

Граніцы ж вуліц, завулкаў, грамадзкіх пляцоў, паасобных сядзіб і будаўнічага месца ў іх замацоўваюцца ў натуры пастаўленьнем калкоў, грубінёю 7—9 сант. і даўжынёю 7—9 дэцым. без акапваньня іх курганамі. Калкі забіваюцца так, каб на паверхні зямлі аставаўся канец ня большы паўтара - два дэцым.

## РАЗЬДЗЕЛ II.

## АГУЛЬНАЕ РАСПЛЯНАВАНЬНЕ СЯЛЕНЬНЯЎ.

20. Сяліцебнае месца падзяляецца на кварталы, даўжыня якіх па вуліцы не павінна перавышаць 250-300 мэтр. Квартал можа быць аднабочны і двухбочны, у адпаведнасьці з гэтым яго будаўнічыя дзялянкі (пляцы) выходзяць на адну або на дзьве вуліцы.

21. Для папярэджаньня пашырэньня пажараў кірунак вуліц не павінен, па магчымасьці, супадаць з кірункам пануючых вятроў.

22. Шырыня вуліцы павінна быць ня менш 30 мэтр.; пры гэтым дазваляецца перад будынкамі рабіць палісады, займаючы для гэтага раўнамерна бакі вуліцы, але ня больш 5 мэтр. ад яе граніцы.

Шырыня завулкаў павінна быць ня меншая 8 мэтр.

*Увага.* Калі перапляноўваюцца старыя сяленьні і ўпарадкоўваюцца сяленьні на месцы, шырыня вуліцы можа быць 20 мэтр., а завулкаў 6 мэтр.

23. Калі, пры мясцовых умовах, вуліца забудоўваецца толькі з аднаго боку, то шырыня такой можа быць зьменшана, але ў кожным выпадку шырыня вуліцы не павінна быць меншая 15 мэтр.

24. Калі праз адну з вуліц сяленьня, якое проэктуецца, праходзіць шлях, то шырыня такой вызначаецца ў адпаведнасьці з існуючымі для гэтага палажэньнямі аб грунтовых дорогах і шосах, але ня менш разьмераў, зазначаных у п. 22-м.

25. У сяленьнях, маючых больш 50 двароў, па магчымасьці ў цэнтры па адным або па абодвых бакох вуліцы адводзіцца плошча патрэбнае велічыні, але ня менш 15.000 мэтр. для грамадзкае патрэбы, а именна: пад школы, чытальні, адміністрацыйныя будынкі, коопэратывы, пажарныя будынкі, сады, кветні і наогул для грамадзкага карыстаньня, а таксама павінны адводзіцца плошчы на ўскраінах сяленьня для лячэбных закладаў, харчовых складаў і электрычных станцый.

*Увага.* Усе будынкі, якія будуюцца на грамадзкіх плошчах, ня могуць крыцца саломаю.

26. Для сяленьня ня больш 50 двароў павінна быць пакінута не забудованаю па сярэдзіне сяленьня хаця-б адна плошча мераю ня менш 6.000 кв. мэтр.

27. Для рынкаў і кірмашоў адводзяцца асобныя плошчы, па магчымасьці, за сяленьнямі.

28. Месцы для школ адводзяцца або на грамадзкай дзялянцы (арт. 25) або асобна, ў адпаведнасьці з іх асьветнымі задачамі.

29. Дзялянкі для больніц, але ня фэльчарскіх пунктаў і амбуляторый, якія будуюцца на грамадзкім месцы, вызначаюцца за ся-

леньнямі на адлегласьці ня менш 100 мэтр. ад бліжэйшых сядзібных месц.

*Увага.* Разьмеры школьных і больнічных дзялянак, зазначаных у арт. арт. 28 і 29 гэтых правіл, павінны быць здавальняючымі для разьмяшчэньня на іх школы або больніцы, дапаможных будынкаў, саду, гароду; гэткія разьмеры вызначаюцца спэцыяльнаю інструкцыяю, якая выдаецца Народным Камісарыятам Унутраных Спраў, пасьля ўзгадненьня з зацікаўленымі ўстановамі.

30. Калі ёсьць на землях земляўпарадкоўваемае грамады месцы, прыгодныя для распрацоўкі гліны, жвіру, пяску, вапнякоў і іншых парод для патрэб будаўніцтва, то такія месцы адводзяцца каморнікам-земляўпарадчыкам у грамадзкае карыстаньне на падставе абследаваньня акруговага спэцыялістага па сельскім будаўніцтве ў мясцох іх пакладу, па магчымасьці, недалёка ад сяленьняў, на малапрыгодных для сельска-гаспадарчага скарыстаньня дзялянках; разьмер плошчы ўстанаўляецца па згодзе з сельскаю грамадою.

31. Калі адведзенае месца для распрацоўкі павінна быць прызначана для карыстаньня ня толькі тэй грамады, на зямлі якой яно знаходзіцца, але і для насяленьня акалічных раёнаў, не ўваходзячых у склад падзяляемых грамад, якія раёны ня маюць такіх распрацовак, але патрабуюць іх, адвод робіцца ў земляўпарадчым парадку з захаваньнем арт. арт. 21 і 22 Зямельнага Кодэксу і правіл земляўпарадкаваньня; пры гэтым нагляд за правільнаю распрацоўкаю адведзеных дзялянак ускладаецца на адпаведныя раённыя выканаўчыя камітэты.

32. Фабрычна-заводскія прадпрыемствы, млыны з агнявымі рухавікамі, склады палкіх матар'ялаў і вялікія майстэрні павінны разьмяшчацца группамі за сяленьнямі з захаваньнем усіх спэцыяльных тычачыхся іх вымаганьняў. Месца для іх павінна адзяляцца ад бліжэйшых дзяляняк незабудаванаю паласою шырынёю ня менш 100 мэтр. і разьмяшчацца так, каб не забруджваць вадазбораў.

33. Сяліцебныя дзялянкі ў сяленьнях, для іх санітарнае і пажарнае бясьпечнасьці, павінны мець у шырыню, іначай кажучы—па вуліцы, ня менш 40 мэтр., у глыбіню, калі будуюцца гумны, ня менш 135 мэтр., а бяз гумнаў—ня менш 70 м.

*Увага.* Пры пераплянаваньні старых сяленьняў і пры ўпарадкаваньні сяленьняў на месцы, сядзібныя дзялянкі могуць проэктавацца і меншых разьмераў, але пры ўмове пакіданьня разрываў паводле п. 38.

34. Кожная сядзіба павінна быць падзелена на чысты двор, жывёлавы двор і гарод з садам.

35. На кожнай сядзібнай дзялянцы павінна быць вызначана:

а) будаўнічае месца, на якім могуць будавацца жылыя будынкі, адрыны, хлявы, сьвірны, скляпы, ляднікі і іншыя надворныя будынкі, а таксама і майстэрні для саматужнага промыслу, калі апошнія дазваляюцца мясцовымі абавязковымі пастановамі;

б) гуменнае месца для стагоў, ёўняў і іншых сельска-гаспадарчых будынкаў.

*Увага.* Будынкі павінны знаходзіцца ад граніцы суседняе дзялянкі ня бліжэй 1,7 мэтр.

36. Будаўнічыя месцы разьмяшчаюцца адзінкамі або парамі.

37. Разьмер будаўнічага месца ў шырыню залежыць ад разьмераў сядзібнае дзялянкі і вызначаецца разрывам шырынёю ня менш 20 мэтр. ад аднаго з суседніх будаўнічых месц.

*Увага 1.* Разрывы паміж будаўнічымі месцамі могуць быць зьменшаны з дазволу тэхнічнага нагляду, калі будуюцца драўняныя будынкі з агнятрывалымі стрэхамі—да 15 мэтр. і калі будуюцца агнятрывалыя будынк —да 12 мэтр.

*Увага 2.* Калі немагчыма ўстанавіць разрыў паміж будынкамі ў 20 мэтр. пры разьмяшчэньні ў адзіночку, будынкі разьмяшчаюцца парамі.

38. Разрывы не забудоўваюцца, але могуць быць заняты пад гароды сады і наогул могуць быць скарыстаны для гаспадарчых мэт на тых умовах, каб гэтыя разрывы былі перашкодаю пры пажарах.

39. Адлегласьць паміж гуменнымі месцамі суседніх двароў павінна быць ня меншая 20 мэтр., а адлегласьць ад надворных будынкаў для хутароў ня меншая 20 мэтр. і для вёсак і пасёлкаў ня меншая 50 мэтр.

Р А З Ь Д З Е Л III.

## АБ ГРАМАДЗКІХ І АБ ПРЫВАТНЫХ БУДЫНКАХ.

40. Чыстая вышыня жылых памяшканьняў у сярэдзіне павінна быць ня меншая 2,7 мэтра.

41. Будынкі ўсіх катэгорый павінны мець каміны з цэглы або з іншых негаручых матар'ялаў. Калі стрэхі робяцца з агнятрывалага матар'ялу, то каміны павінны паднімацца над каньком ня менш 0,5 м.

42. Печы і каміны робяцца з агнятрывалых матар'ялаў з разьдзяленьнем ад драўняных часьцей так, каб адлегласьць ад унутранае сьцяны жаравага ходу да дрэва была ня меншая 0,4 мэтра.

43. Каб ня было сырасьці ў агнятрывалых будынках, трэба падмуроўку ізаляваць пракладкаю толю, бяросты і асфальту, а для праветрываньня пад падлогаю і для захаваньня драўняных частак ад гніеньня павінны быць зроблены ў цокале аддушыны або дзіры, якія закрываюцца на зімовы час.

44. Калі насьцілаецца кастрыца, мох або сухія лісьця для ацяпленьня столі, трэба паверху яе змазваць глінаю.

45. Для санітарных і гігіенічных мэт, плошча аконных прарэзаў у хаце павінна быць ня меншая 1/14 плошчы падлогі. У вокнах і печах або ў сьценах павінны быць зроблены дзіры для праветрываньня.

46. Склады газы, дзёгцю, смалы і інш. лёгка-запальваючыхся матар'ялаў, прызначаных для продажу, павінны знаходзіцца ў земляных або негаручых скляпох або ў цыстэрнах, якія разьмяшчаюцца ад іншых будынкаў на адлегласьці ня менш 100 мэтр.

47. Лазьні, сушыльні збожжа і лёну і пякарні павінны знаходзіцца на адлегласьці ад іншых будынкаў ня бліжэй 50 мэтр.

*Увага.* Зазначаныя ў арт. 47 будынкі павінны разьмяшчацца так, каб не забруджваць вадазбораў.

48. Грамадзкія будынкі, пабудаваныя з агнятрывалых матар'ялаў, павінны знаходзіцца ад бліжэйшых прыватна-уласьніцкіх будынкаў ня менш 25 мэтр.

49. Каб не забруджваць крыніц і іншых прыродных вадазбораў, прызначаных для грамадзянскага карыстаньня, бліжэйшыя будынкі не павінны разьмяшчацца ад іх бліжэй, як на 20 мэтр.



## РАЗЬДЗЕЛ IV.

## АБ АГУЛЬНЫМ УПАРАДКАВАНЬНІ СЯЛЕНЬНЯЎ.

50. На ободвых бакох вуліц і пляцоў павінны быць адведзяны пад тротуары палосы ня вужэй 1,5 мэтр., пры якіх, у выпадку патрэбы, павінны быць зроблены дажджавыя канавы для сьцяканьня вады. Тротуары абсаджваюцца правільнымі радамі дрэў лістaвых парод, агароджанымі ад псоты жывёлаю і вазамі. Праз канавы для ўезду ў сядзібу павінны быць зроблены масткі.

51. Паверхня тротуарнае паласы і праежджая часьць вуліцы ў тых сяленьнях, дзе з прычыны значнага руху робіцца цяжкім праезд, павінна быць убіта такім матар'ялам, які будзе прызнаны зручным для данае мясцовасьці.

52. Праежджая часьць вуліцы павінна мець у сярэдзіне і ў папярэчным кірунку пад'ем ад 1/40 да 1/60 вуліцы або завулку.

53. Завулкі павінны быць сплянаваны выгаднымі для праезду і для сьцяканьня вады.

54. Разрывы на сядзібных дзялянках павінны быць засаджаны ўздоўж усяе граніцы дрэвамі лістaвых парод.

55. Рынкавы пляц павінен быць сплянаваны так, каб на ім пасярэдзіне было узвышша і схіл ад центру для сьцяканьня вады і па магчымасьці павінен быць забрукован каменьнямі.

56. На грамадзкім пляцы трэба ўстанавіць слупы з надпісам, паказваючым: назву сяленьня, лік двароў і адлегласьць ад бліжэйшага сяленьня і гораду.

57. На канцох сяленьня пры ўезьдзе і выезьдзе і на скрыжаваньнях дарог ставяцца слупы з прыбітымі дошчачкамі, на якіх паказваецца назва бліжэйшага сяленьня і адлегласьць ад яго. Дошчачкі прыбіваюцца ў кірунку на суседнія сяленьні, назва якіх на ёй паказана.

58. Грамадзкія і прыватныя студні, з якіх бярэцца для піцьця вада, павінны рабіцца па магчымасьці, на ўзгоркаватых мясцох на адлегласьці ня менш 20 мэтр. ад хлявоў, сьметнікаў і наогул ад крыніц, забруджваючых глебу, з такім разьлікам, каб на кожныя 10 двароў было ня менш 1 студні. Зруб звычайных (не сьвідраваных) студняў выкладаецца каменьнямі, дрэвам, або іншымі матар'ялямі, ў вышыню ад паверхні зямлі павінен быць ня меншы 0,75 мэтр. Ад студні робіцца раўчук для сьцяканьня вады.

Калі робяцца драўляныя зрубы, то зямля навокал студні павінна быць убіта пластам гліны, грубінёю ня менш 0,5 мэтр., каб ня было праточваньня вады з паверхні зямлі ў студню.

59. Крыніцы і іншыя прыродныя вадазборы, прызначаныя для грамадзкага гаспадарчага карыстаньня, павінны мець выгадныя падходы або пад'езды і ахоўвацца ад забруджваньня.

60. Калі будуюцца і разьмяшчаюцца ў сяленьнях прамысловыя заклады, якія могуць забруджваць вадазборы грамадзкага карыстаньня сточнаю вадою, то гэтая акалічнасьць бярэцца пад увагу пры разглядзе проэктаў і выдачы дазволу на пабудоўку закладаў, паводле арт. 75 гэтых правіл з запатрабаваньнем заключэньняў ад санітарна-лекавага нагляду.

61. Месцы для новых могілак павінны адводзіцца на ўзгорках з нізкім ўзроўнем грунтовае вады і на адлегласьці ня менш 1000 мэтр.

